

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamajca, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 584 Верасень 2011 г.
Год выданьня 61

# Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і "Пагоня"- Дзяржаўныя Сымбалі Краіны Беларусі, Нацыянальныя Сымбалі Беларускае Нацыі!

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі чарговы верасьнёўскі нумар газэты. У верасьні працягнуліся нашы нацыянальныя сьвяты, зьвязаныя з аднаўленьнем незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе.

Пасьля таго, як 25 жніўня Дэклярацыі аб незалежнасьці Беларусі быў нададзены статус канстутыцыйнага закону, былі зробленыя наступныя крокі – 19 верасьня 1991 году была зьменена назва БССР і прыняты новы герб і сьцяг аднюўленай Беларускай дзяржавы. 20-ю гадавіну гэтых падзеяў адзначылі беларусы па цэлым сьвеце і мы пісалі пра 25 жніўня ў мінулым нумары. Гэтую тэму мы працягваем і ў гэтым, вы тут прачытаеце пра тое, як адзначалася сьвята Герба і Сьцяга, а таксама падаем інфармацыю пра сьвяткаваньне аднаўленьня дзяржаўнасьці ў Нью-Ёрку, дзе гэтая імпрэза адбылася са спазьненьнем з-за прыродных катаклізмаў.

Падзеям у Беларусі мы надаем на старонках газэты значную увагу, бо там сёньня вызначаецца далейшы лёс краіны і беларускай нацыі ўвогуле. Найперш, гэта Народны Сход, які плянуецца на 8 кастрычніка. Галоўная управа БАЗА падала ў гэты нумар газэты сваю прапанову аб магчымым удзеле ў Сходзе і беларускага замежжа, якую заклікае падтрымаць як беларусаў ў ЗША, так і па цэлым сьвеце.

Важныя іншыя падзеі, акрамя сьвяткаваньняў, адбываліся ў беларускім замежжы, сярод іх, на наш погляд, увагі заслугоўвае Канфэрэнцыя беларусаў краінаў Балтыі, якая сталася форумам не толькі балтыйскіх беларусаў, але на ёй была прысутная цэлая група вядомых дзеячаў з самой Беларусі, якія вольна маглі там выказаць свае думкі, падзяліцца сваімі трывогамі, а найважней, маглі з першых рук інфармаваць дыяспару пра рэальную сытуацыю на Бацькаўшчыне.

Знайшлося месца у гэтым выпуску і для творчасьці нашых чытачоў, якія даслалі нам свае творы, зацемкі і нататкі. Ёсьць для вас і розныя іншыя інфармацыі пра падзеі культурнага жыцьця, а таксама абвесткі і паведамленьні.

Заклікаем вас прымаць больш актыўны удзел у выданьні газэты, дасылайце свае інфармацыі для публікацыі, якія мы з гатовасьцю надрукуем.

*Рэдакцыя*



...Лязгат рыцарскіх блях.
Меч сьціскаюць далоні.

Чырвань на белым
з расьсекчанай скроні -
Сымбал Адвагі -
Нацыі Сьцяг...

.......................

Абаронім Бацькоўскія гоні!
Ня заплямім
Сьвятое Пагоні!

.......................

Рух наш да Волі -
пакутлівы шлях...

***20 гадоў таму - 19 верасьня 1991 году Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб зьмене назвы на Рэспубліку Беларусь, дзяржаўным гербам была зацьверджана "Пагоня" а сьцягам – бел-чырвона-белы сьцяг.***



# 25 ЖНІЎНЯ – ВЯЛІКАЕ БЕЛАРУСКАЕ СЬВЯТА

Урачыстасьці ў Нью-Ёрку, прысьвечаныя 20-ым угодкам аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі прайшлі, можна сказаць, з некаторым спазьненьнем, бо былі перанесеныя ў сувязі з ураганам, які пагражаў усяму усходняму пабярэжжу Амэрыкі. Імпрэза адбылася 11 верасьня і супала з 10-мі угодкамі тэракту 2001 года ў Нью-Ёрку. Ладзіў сьвяткаваньне Бруклінскі аддзел БАЗА.

Служба ў Саборы сьв. Кірылы Тураўскага, што ў Брукліне на Атлянтык Авеню 401, пачалася з малітвы па ахвярах 11 верасьня 2001 года. Далей пад час службы ўсе прысутныя разам прачыталі Малітву за Беларусь і натхнёна прасьпявалі гімн "Магутны Божа", у царкоўную залю былі ўнесеныя беларускі і амэрыканскі сьцягі.



Сьвяточная імпрэза адбывалася пасьля службы ў грамадзкай залі, цягам якой згадваліся асноўныя даты цяжкага 200-гадовага змаганьня за Волю. З кароткім экскурсам у гісторыю змаганьня пад час 90-х гадоў выступіла старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА сп-ня Тацьцяна Красоўская. Сваімі ўспамінамі 20-гадовай даўніны падзяліліся старшыня Галоўнай управы БАЗА Ганна Сурмач, былы дэпутат Менскага гарсавета XXI скліканьня Галіна Пазьняк, сп-ня Валянціна Трыгубовіч, старшыня Парафіяльнай Рады Расьціслаў Гарошка, сакратар Парафіяльнай Рады Уладзімер Цяліца, Андрусь Падлескі і іншыя.

Выступоўцы падкрэсьлівалі вялікае значэньне гэтага Дня – 25 жніўня 1991 года – у захаваньні Беларускай нацыі на мапе сусьветнай гісторыі. Успаміналі, як за саветамі ў Беларусі камуністамі-бальшавікамі актыўна зьнішчалася ўсё беларускае: наша гістарычная памяць, мова, культура.

У сваім эмацыянальным выступе сп. Галіна Пазьняк нагадала пра ролю беларускай дыяспары ў справе змаганьня за волю і незалежнасьць Бацькаўшчыны:

"Высакародную місію захаваньня беларускай культуры, яе мовы, традыцыяў, нашых сьвятых сымбаляў – гэрба "Пагоня" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга – узяла на сябе беларуская паваенная эміграцыя ў Эўропе і Амэрыцы. Ня маючы ніякіх сувязяў з суродзічамі на Радзіме, беларуская эміграцыя тым ня менш вяла актыўнае беларускае жыцьцё ў замежжы. Былі створаны шматлікія грамадзкія арганізацыі; дзякуючы ахвяраваньням беларусаў замежжа выходзілі часопісы, газэты, актыўна працаваў беларускі кнігадрук. Такім чынам у гісторыі нашай культуры захаваліся (не загінулі) шматлікія імёны беларускіх дзеячоў, выбітных людзей, паэтаў, пісьменьнікаў, гісторыкаў, дзеячоў мастацтва. І сёньня гэты прыклад паваеннай беларускай эміграцыі павінен натхняць і нас, сучасную беларускую эміграцыю, больш гуртавацца разам, быць вернымі нашай сьвятой Нацыянальнай ідэі, нашай мове, культуры, нацыянальным традыцыям".

Нягледзячы на цяжкія часы савецкай акупацыі, беларусы не гублялі надзеі на вызваленьне нашай Бацькаўшчыны. І гэты час настаў, калі сам пан Бог даў нам шанец на выратаваньне зь імпэрскага савецкага палону. Гэта быў кароткі час. Усяго некалькі дзён мелі дэпутаты Апазыцыі БНФ Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, каб дамагчыся Незалежнасьці, калі ў выніку барацьбы за ўладу імпэрыя пачала развальвацца, а камуністы ў Беларусі былі разгубленыя і напалоханыя падзеямі ў Маскве.



Дзякуючы невялічкай, але гераічнай частцы Вярхоўнага Савета – Апазыцыі БНФ, -- якая складала ўсяго 8-10 адсоткаў ад яго складу, у тыя лёсавызначальныя для нашай Бацькаўшчыны два дні (24-25 жніўня) удалося спачатку зьняць з пасады старшыню ВС, які падтрымаў путч у Маскве, забараніць КПСС(КПБ) на Беларусі, а потым -- надаць Дэклярацыі аб суверэнітэце статус Канстытуцыйнага закону.

25 Жніўня 1991 года Беларусь стала Незалежнай. Мы памятаем імёны тых, хто вырваў нашую свабоду з абцугоў страшнай імпэрыі зла.

Гэта **Мікалай Аксаміт, Віктар Алампіеў, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Юры Беленькі, Вольга Галубовіч, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў, Генадзь Грушавы, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Уладзімер Заблоцкі, Лявонці Зданевіч, Віктар Какоўка, Мікалай Крыжаноўскі, Віталь Малашка, Мікалай Маркевіч, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Ігар Пырх, Пётра Садоўскі, Сяргей Слабчанка, Галіна Сямдзянава, Алег Трусаў, Павал Холад, Алесь Шут.**

Сёньня на Беларусі зноў прамаскоўскі рэжым, які прадаўжае разбуральную працу нашай краіны. Але Беларусь ужо ня тая, што была за саветамі. 20 год незалежнай краіны не прайшлі надарэмна. Беларусы шмат даведаліся пра гісторыю свайго зьнішчэньня і пра свайго ўсходняга ворага. Яны больш ня хочуць жыць у імпэрыі, ім дарагая свая Бацькаўшчына.
Час вызваленьня ідзе, ён блізка, бо яго чакае Беларусь.

*Марыля Якушэвіч*

# Дзень нацыянальных сымбаляў у Севастопалі

19 жніўня 2011 г. Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Баагдановіча "Пагоня"традыцыйна адзначыла Дзень нацыянальных сымбаляў – герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сьцягу. У цэнтры горада на самай ажыўленай магістралі – прасьпекце адмірала Нахімава былі ўзьнятыя бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня", чыталіся вершы беларускіх паэтаў пра нашыя нацыянальныя сымбалі.

Нашы гістарычныя сымбалі з'яўляюцца абавязковым атрыбутам на ўсіх імпрэзах Таварыства. У Статуце гаворыцца, што гэта наша афіцыйная сымболіка. У нашай сядзібе стаяць бел-чырвона-белыя сьцягі і на сьценах вісяць выявы герба.




Адначасна наша мерапрыемства было актам падтрымкі беларускіх палітычных вязьняў, гучалі словы салідарнасьці з тымі, хто адстойвае ідэалы свабоды і незалежнасьці Беларусі. Было зачытана віншаваньне з днём нараджэньня зьняволенаму Алесю Бяляцкаму.

Мы ўпэўненыя, што нашы нацыянальныя гістарычныя сымбалі абавязкова ізноў стануць дзяржаўнымі і назаўсёды. Як пісаў Максім Багдановіч нашу "Пагоню" "… не разьбіць , не спыніць , не стрымаць!"

*Валеры Барташ*
*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня"*

# Сьвята ў гонар Гербу і Сьцягу

Каб ушанаваць 20-годзьдзе наданьня гербу "Пагоня" і бел-чырвона-беламу сьцягу статусу дзяржаўных, 19 верасьня ў Менску актывісты беларускіх арганізацый "Малады Фронт" і "Маладыя дэмакраты" правялі акцыю-віншаваньне: у людных месцах, на цэнтральных вуліцах і плошчах яны раздавалі людзям значкі з выявай гэтых гістарычных сымбаляў. Для адных такі падарунак быў радасным нагадваньнем пра знамянальную падзею, што адбылася 19 верасьня 1991 году, для іншых – нечаканым адкрыцьцём або неспадзеўкаю…

Абраны прэзыдэнтам ў 1994 годзе, Аляксандр Лукашэнка менш як праз год зьмяніў нацыянальную сымболіку на "савецка-калгасную", дзейную дагэтуль. Менавіта пад ёю – афіцыйна – вырасла новае пакаленьне. Аднак мільёны людзей па ўсёй краіне ведаюць і шануюць СВОЙ сьцяг і герб. Дзеля іх выйшлі на вуліцы Менску маладыя людзі, каб адзначыць Дзень нацыянальных сымбаляў, каб далучыць да сваіх прыхільнікаў яшчэ большую кольказсьць беларусаў.



Праўядзеньню акцыі-віншаваньня паспрыяла беларуская Культурна-адукацыйная фундацыя з Нью Ёрку.

Нягледзячы на зьняволеньне двух моладзевых актывістаў напярэдадні 19 верасьня, у гэты дзень у сталіцы Беларусі ў розных месцах былі ўзьняты бел-чырвона-белыя сьцягі. Адну з гераінь-сьцяганосцаў – Ніну Багінскую, жанчыну старэйшага веку, міліцыянт арыштаваў проста ля Чырвонага касьцёла.

Кожнае нацыянальнае сьвята пад уладай дыктатарскага рэжыму – гэта акт супраціву, крок беларускага грамадзтва да Свабоды і Дэмакратыі.

# Дзень беларускай вайсковай славы

Гэтае сьвята традыцыйна адзначаецца беларускай дэмакратычнай грамадзкасьцю 8 верасьня. Але, адзначалі яго сёлета не ў Беларусі, а ў Львове і Варшаве.

Сьвяткаваньне ў цэнтры Львова пачалося зь беларускамоўнай літургіі ў грэка-каталіцкай царкве Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Пасьля службы айцец Антон асьвяціў бел-чырвона-белы сьцяг памерам чатыры з паловай на дзевяць мэтраў і дзьве выявы герба "Пагоня". У сьвяткаваньні бралі ўдзел беларускія апазыцыянэры Вячаслаў Сіўчык, Алесь Пушкін, Юрась Карэтнікаў, Алесь Макаеў. Сьвята скончылася ўрачыстым сьвяточным пасяджэньнем у актавай залі ў цэнтры Львова. Беларускія апазыцыянэры правялі прэсавую канфэрэнцыю. У ёй браў удзел брат цяперашняга палітвязьня, заснавальніка ў 1991 годзе Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, Міколы Статкевіча - Аляксандар, які жыве ў Львове.

У Варшаве шэсьце ў гонар беларускай перамогі ў бітве пад Воршай арганізавала варшаўская грамада Беларускай нацыянальнай памяці.

Ідэя адзначэньня Дня вайсковай славы нарадзілася пасьля таго, як 8 верасьня 1992 году ў Менску на плошчы Незалежнасьці вайскоўцы прынялі прысягу на вернасьць Беларусі. Сярод іх быў Уладзімер Барадач, які тады камандаваў брыгадай спэцназу, а цяпер знаходзіцца ў эміграцыі ў Нямеччыне.



**Прысяга Беларусі. 8 верасьня 1992 году. Плошча Незалежнасьці**

"Арганізацыю беларускіх вайскоўцаў тады ўзначальваў Мікола Статкевіч, які цяпер сядзіць у турме, экс-кандыдат у прэзыдэнты. Частка афіцэраў у адстаўцы і частка, у тым ліку і я, хто служыў ва Узброеных сілах, вырашылі праявіць такую ініцыятыву і прысягнуць. І 8-га верасьня пры шырокім зборы інтэлігенцыі, апазыцыі, дэмакратычна настроеных людзей мы выйшлі і прынялі прысягу. Канечне, гэта быў значны крок. Мы ішлі на гэта сьвядома, ў імя сваёй Айчыны".

Паводле спадара Барадача, перамога на Крапівенскім полі цяпер сьвяткуецца на грамадзкім узроўні, афіцыйныя структуры ў Беларусі дагэтуль яе не прызналі і не адзначаюць.

"Гэтая гістарычная вельмі важная веха, як і многія іншыя гістарычныя падзеі, адмыслова вуаліруецца, ня згадваецца, каб не выхоўваць на старых гістарычных традыцыях гонар нашага народу. Зьнішчаецца беларускасьць, гісторыя, і зьнішчаецца, фактычна, корань, на якім грунтуецца сіла народная. А зна-

# “Democratic Change in Belarus: A Framework for Action” (“Дэмакратычныя зьмены ў Беларусі: Рамкавая праграма дзеяньня”

23 верасьня у Вашынгтоне адбылася прэзэнтацыя дакладу “Democratic Change in Belarus: A Framework for Action” (“Дэмакратычныя зьмены ў Беларусі: Рамкавая праграма дзеяньня”).

Дакумэнт быў супольна падрыхтаваны экспэртамі Цэнтру аналізу эўрапейскай палітыкі і арганізацыі Freedom House. Даклад зьмяшчае рэкамэндацыі як заходнім палітыкам, так і беларускай апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці, што рабіць і як рабіць дзеля дэмакратычных пераменаў у Беларусі.

Аўтары дакладу зыходзяць з таго, што пазыцыі Аляксандра Лукашэнкі на сёньняшні дзень найслабейшыя і найбольш уразьлівыя, чым калі раней. Аналітыкі і экспэрты падкрэсьліваюць важнасьць скаардынаваных дзеяньняў Злучаных Штатаў і Эўрапейскага Зьвязу для рыхтаваньня беларускай будучыні без Лукашэнкі.
Даклад адрозьніваецца ад многіх ранейшых праграм, якія разглядалі палітыку Захаду ў адносінах да Беларусі ў прывязцы да расейскага фактару.

Лукашэнка ня будзе тым лідэрам, зь якім Злучаныя Штаты і Эўропа могуць працаваць для рэалізацыі рэформаў у Беларусі. Гэта безнадзейна.

“Завершаныя няўдачаю захады Эўразьвязу напярэдадні мінулых выбараў у Беларусі даводзяць, што Лукашэнка ня здатны весьці сваю краіну ў Эўропу, – заявіў віцэ-прэзыдэнт Атлянтычнай рады Дэйман Уілсан. – Ён ня будзе тым лідэрам, зь якім Злучаныя Штаты і Эўропа могуць працаваць для рэалізацыі рэформаў у Беларусі. Гэта безнадзейна. І, па-другое, даклад умацоўвае ў перакананьні, што нам сапраўды патрэбна палітыка ў адносінах да Беларусі, не такая палітыка, якая зьяўляецца адно нечым залежным ад нашай палітыкі ў адносінах з Расеяй. Я спадзяюся, што Вашынгтон і Брусэль ня трапяць у пастку – ня вырашаць не чыніць ціску на Менск, баючыся, што такі ціск будзе выштурхоўваць Беларусь у маскоўскія рукі”.



Рэгіянальны погляд на беларускую сытуацыю падаў у часе прэзэнтацыі дакладу намесьнік міністра замежных справаў Польшчы Кшыштаф Станоўскі. Паводле Станоўскага, Польшча як краіна, што старшынюе цяпер у Эўразьвязе, чакае ад Беларусі “вызваленьня і рэабілітацыі ўсіх апазыцыйнікаў, пачатку перамоваў паміж афіцыйнымі асобамі і лідэрамі апазыцыі, а затым правядзеньня выбараў”. “І толькі пасьля сумленных выбараў можа быць выпісваньне чэкаў, ніякіх чэкаў да выбараў. Ніякіх перамоваў – да амністыі і рэабілітацыі. Гэта павінны быць асноўныя правілы”.

Заклік ніякім спосабам не падтрымліваць Лукашэнкавага рэжыму фінансава знайшоў падтрымку ўва ўсіх выступоўцаў у часе прэзэнтацыі дакладу. Аўтары дакумэнту лічаць, што ні пры якіх абставінах МВФ не павінен даваць беларускім уладам новых крэдытаў. Прамоўцы ў Вашынгтоне таксама гаварылі пра неабходнасьць перашкодзіць Лукашэнку ў продажы актываў буйных беларускіх прадпрыемстваў для здабыцьця грошай на падтрыманьне жыцьцядзейнасьці рэжыму.

“Для нас сёньня важна ўпэўніцца, што Лукашэнка ня мае магчымасьці дарэшты разрабаваць сваю краіну і завесьці ў даўгавую яму, – адзначыў супрацоўнік Інстытуту Пэтэрсана, экспэрт у пытаньнях посткамуністычных краінаў зь пераходнай эканомікаю Андэрс Аслунд. – Што для гэтага мы можам зрабіць? Увесьці санкцыі ў дачыненьні да гэтых прадпрыемстваў. Калі будуць уведзеныя санкцыі, цана прадпрыемстваў зьнізіцца і Лукашэнка ня будзе зацікаўлены ў іх продажы”.

Падчас прэзэнтацыі гучалі пытаньні аб тым, як прымусіць “апошняга дыктатара Эўропы” пакінуць сваю пасаду. Аўтарамі стратэгіі сыходу Лукашэнкі маюць быць самі беларусы, адзначыў у сваім выступе прэзыдэнт няўрадавай арганізацыі Freedom House Дэйвід Крэймэр: “Канчатковая роля тут належыць народу Беларусі, але ёсьць і тая роля, якую мае адыграць Захад, і цяпер, я думаю, ёсьць унікальная магчымасьць. Я маю на ўвазе, што Беларусь ніколі дасюль не сутыкалася з такім эканамічным крызісам, а гэта значыць, што Лукашэнка больш уразьлівы сёньня, чым калі раней. Я думаю, гэта відаць зь яго дзеяньняў і паводзінаў. Думаю, надышоў час працягваць чыніць ціск, не зьмякчаць пазыцыі, бо пры далейшым ціску людзі ўнутры рэжыму могуць вырашыць: “Даволі, нельга далей ісьці гэтай дарогаю”. І я думаю, найбольш праўдападобны сцэнар, калі людзі ўнутры рэжыму скажуць, што такі шлях непрымальны, што ён ня можа доўжыцца, што нам патрэбныя перамены. Няпростым, але відавочным рашэньнем, каб паслабіць ціск, будзе для Лукашэнкі сыход.

## Арганізатары Народнага сходу: 8 кастрычніка – гэта толькі пачатак

Галоўная акцыя пратэсту сёлетняй восені – Народны сход мае адбыцца 8 кастрычніка. “Улады доўга не зьвярталі ўвагі на наша мерапрыемства. Але, апошнім часам увага да нас узрасла. Ёсьць некалькі выпадкаў затраманьняў нашых актывістаў за распаўсюджваньне інфармацыйных матэрыялаў”, - заявіў на прэс-канфэрэнцыі ў Менску сустаршыня аргкамітэта па правядзеньню Народнага сходу Віктар Івашкевіч.

Арганізатары сьцьвярджаюць, што толькі ў Менску сабрана больш за пяць тысячаў подпісаў ў падтрымку правядзеньня Народнага сходу. Усе законныя патрабаваньні па падрыхтоўцы і правядзеньню мерапрыемства арганізатарамі і валанцёрамі выконваюцца ў поўнай меры.

“Я ўпэўнены, што ўлады не пойдуць на масавыя разгоны, бо яны зараз рыхтуюць “круглыя сталы” з Эўразьвязам", - сказаў лідэр Беларускага прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасьці Генадзь Фядыніч, адзін з арганізатараў Сходу.

“Усім чыноўнікам і прадстаўнікам улады будуць накіраваны запрашэньні. Замест таго, каб ставіць калы ў калёсы і хавацца ў кабінетах, няхай прыходзяць і размаўляюць з людзьмі. Не праз шкло тэлнвізара, а непасрэдна…”, заклікаў прафсаюзны лідэр.

“8 кастрычніка - гэта толькі пачатак, і ўлада павінна ведаць, што калі яна імкненцца да стабільнасьці ў краіне, то павінна ісьці насустрач народу”, - падкрэсьліў Генадзь Фядыніч.



## Пашырым Народны сход у Беларусі ва Усебеларускі сусьветны сход!

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня зьвяртаецца да Аддзелаў і Гурткоў БАЗА з прапановаю правесьці акцыі ў падтрымку галоўнага пратэстнага мерапрыемства гэтай восені ў Беларусі - Народнага сходу, які плянуецца дэмакратычнымі сіламі на 8 кастрычніка. Гэта могуць быць праведзеныя ў гэты дзень нефармальныя сходы сяброў Аддзелаў і Гурткоў, на якіх можа падавацца непасрэдная інфармацыя аб падзеях у Беларусі , могуць быць паказаны розныя відэаматэрыялы і фільмы, праходзіць абмен думкамі пра сучасную сытуацыю на нашай Бацькаўшчыне і пра магчымасьці нашай падтрымкі тых, хто змагаецца з дыктатураю. Могуць быць таксама арганізаваны мітынгі каля беларускай амбасады ў Вашынгтоне і кансулята ў Нью-Ёрку, ці проста на розных пляцоўках у тых мясьцінах, дзе пражывае неякая колькасьць беларусаў.

Мы таксама заклікаем беларускія грамады ў іншых краінах сьвету падтрымаць нашую прапанову. Такім чынам, Народны сход у Беларусі мог бы стаць Усебеларускім сусьветным сходам з удзелам усіх суайчыньнікаў незалежна ад месца іх пражываньня.

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*

## Запрашэньне

Бруклінскі аддзел БАЗА ў падтрымку ініцыятывы Галоўнай управы адносна Народнага сходу запрашае сяброў Аддзелу прыняць удзел ў сходзе нашага Аддзелу ў знак салідарнасьці з удзельнікамі Народнага сходу ў Менску.

Заклікаем вас і вашых родных, сяброў і знаёмых прыйсьці у грамадзкую залю пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на на Atlatic Ave 401
8 кастрычніка 2011 на 11:00 am, каб стаць такім чынам удзельнікам Усебеларускага сходу і выказаць сваю актыўную падрымку дэмакратычным сілам на Бацькаўшчыне.

Даезд трэйнамі: A,C,G – Hoyt-Schermerhorn, B,Q – Atlantic Ave, F – Bergen Str.)

*Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА*

## Анатоль Лябедзька ў Вашынгтоне



Анатоль Лябедзька

Лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька 15 верасьня ў Вашынгтоне быў прыняты сьпікерам Палаты прадстаўнікоў кангрэсу Злучаных Штатаў Амэрыкі Джонам Бэйнэрам. Сустрэча на такім высокім узроўні сьведчыць пра вялікую ўвагу амэрыканскіх парлямэнтароў да беларускіх справаў.

Анатоль Лябедзька браў удзел у Парлямэнцкім форуме новых дэмакратыяў, які праходзіў у сталіцы ЗША. У ім удзельнічаюць як дзейныя, так і былыя парлямэнтары з розных краінаў. На форуме адбыліся дэбаты па трох тэмах. Адна зь іх — становішча ў Беларусі, галоўны дакладчыкам з бнларускага боку быў спадар Лябедзька.

*15.09.2011*

## 11 палітвязьняў выйшлі на свабоду



Аляксандар Лукашэнка памілаваў 15 верасьня яшчэ 11 асуджаных па «справе 19 сьнежня», паведамілі ў прэсавай службе кіраўніка дзяржавы.

Да гэтага 11 жніўня былі памілаваныя 9 асуджаных па справе аб масавых беспарадках, 1 верасьня яшчэ 4 — як паведамлялася, пасьля іх прашэньня аб памілаваньні. У паведамленьні прэс-службы А.Лукашэнкі 15 верасьня ня ўзгадваецца, што памілаваныя вязьні прызналі сваю віну. Сярод вызваленых:

Аляксандар Атрошчанкаў
Дзьмітрый Буланаў
Ільля Васілевіч
Павал Вінаградаў
Аляксандар Класкоўскі
Мікіта Ліхавід
Уладзімер Лобан
Аляксандар Малчанаў
Фёдар Мірзаянаў
Дзьмітрый Новік
Алег Федаркевіч

**Уладзімер Някляеў:** Вызваляе не Лукашэнка, вызваляе сытуацыя.
Сытуацыя міжнароднай ізаляцыі, сытуацыя крызысу, кепскае фінансавае і эканамічнае становішча краіны — вось што дыктуе Лукашэнку тыя крокі, якія ён робіць.

**Рымашэўскі:** «Улада будзе баяцца выпускаць кандыдатаў у прэзыдэнты да 8 кастрычніка»
Экс-кандыдат у прэзыдэнты Віталь Рымашэўскі выказаў меркаваньне, што кандыдатаў у прэзыдэнты улада ня выпусьціць да даты правядзеньня Народных сходаў

## Дакументы «Белтэхэкспарта» знайшлі ў будынку разьведкі Лівіі



Гэтая інфармацыя дае падставу думаць, што Беларусь пастаўляла зброю рэжыму Кадафі.

НАТА разбамбілі офіс у траўні, пасля гэтага ён мала выкарыстоўваўся. Тым не менш, у ім засталіся захоўвацца матэрыялы лівійскай дзяржбяспекі, у тым ліку сакрэтныя. Лівійскія паўстанцы дазволілі рэпарцёрам наведаць будынак лівійскай разведкі. Будынак ахоўваюць аўтаматчыкі, але архівамі спецслужбаў пакуль ніхто не займаецца.

На фотаздымкі сусветных агенцтваў пра гэтую падзею патрапіў і каталёг беларускага экспарцёра ўзбраеньняў «Белтэхэкспарт». Гэтая кампанія на чале з Уладзімірам Пяфціевым, як вядома, ужо патрапіла пад санкцыі Еўразвязу.

## Беларускі дзяржаўны універсытэт трапіў у лік 700 лепшых вышэйшых навучальных установаў сьвету

У кастрычніку сёлета спаўняецца 90 гадоў ад дня заснаваньня Беларускага дзяржаўнага універсытэта. Да гэтага юбілею брытанскае агентства QS (QS World University Rankings зрабіла БДУ добры падарунак. Яно апублікавала сваю вэрсію лепшых вышэйшых навучальных установаў сьвету у колькасьці 700 універсытэтаў. Сярод іх БДУ трапіў у групу з 501 па 550 пазіцыю.

Рэйтынг QS грунтуецца на аналізе інфармацыі пра універсытэт і апытаньнях экспертаў, якія ацэньваюць па наступных паказьніках: акадэмічная рэпутацыя, рэпутацыя сярод працадаўцаў, індэкс цытаваньня навуковых працаў за апошнія пяць гадоў, суадносіны ліку выкладчыкаў і студэнтаў, колькасьць замежных студэнтаў і супрацоўнікаў.

# Нататкі абываталя

***Вядомы гісторык і грамадзка-палітычны дзеяч Анатоль Сідарэвіч з Менску неабыякава назірае за ўсімі праявамі жыцьця ў сучаснай Беларусіі. У выніку нарадзіліся гэтыя нататкі, якія ён прапанаваў да друку ўсім зацікаўленым беларускім выданьням. Спадзяемся, што да зацікаўленых у кожнай інфармацыі пра Бацькаўшчынену належаць і чытачы нашай газэты.***

## 1. Школьнікі як рабсіла

Друкаваць такія здымкі за саветамі было забаронена. І публікаваць нейкую слявесную інфармацыю – таксама. Бо і ў законе, і ў статуце сярэдняй школы было запісана, што навучальны час прызначаецца для вучобы і ніхто не мае права адцягваць вучняў не нейкія іншыя справы. А тут “Звязда” 20 верасня як пра нейкі подзьвіг паведамляе, што дзеці з трох падмінскіх вёсак выбіраюць цыбулю на палях агракамбіната “Ждановічы” – таго самага, што прадае нам гародніну ў магазінах і на базарах. Ды ілюструе гэтую інфармацыю фотаздымкам.

Я не ганю “Звязду”. Наадварот, яна зрабіла правільна, што змясціла гэты здымак. Але варт было ўдакладніць: школьнікі працуюць у вучэбны час. І яны павінны з’яўляцца на працу гэтак, як і на занятку ў школу.

Выкарыстанне прымусовай працы падлеткаў і моладзі – не навіна. Толькі за саветамі гэты факт утойвалі ад цывілізаванага свету (саромеліся), а пры “ўсенароднаабраным” – не хаваюць (не саромеюцца).

Агракамбінат “Ждановічы” – як гэта нам падносяць – гаспадарка не бедная. Калі б належным чынам плацілі сезонным работнікам і падзёншчыкам ды яшчэ з сабою давалі “ў кош”, дык з рабочай сілай, думаю, праблем не было б. Але, здагадваюся, кіраўніцтва аграмкамбіната, як і іншых сельгаспрадпрыемстваў, па руках і нагах звязана рознымі інструкцыямі, і распараджацца сваімі сродкамі волі не мае. А дзе няма волі гаспадарчай дзейнасці, там выкарыстоўваецца праца паднявольных людзей – студэнтаў, школьнікаў, салдатаў і да т. п.

Нашы СМІ добра зрабілі б, калі б апублікавалі фота- і відэарэпартажы аб працы падлеткаў і студэнтаў. Няхай свет бачыць гэты запаведнік сталінізму.

...Не паспеў я напісаць гэты тэкст, як з Маладзечна прыйшла навіна: там школьнікаў на тыдзень выганяюць прыбіраць горад да “Дажынкаў”. Таксама тэма для фота- і відэарэпартажоў.

## 2. Навіна, якая не радуе

На мінулым тыдні “Звязда” і іншыя СМІ ледзь не з радасцю паведамілі, што беларусы панеслі ў абменныя пункты валюту.

Чаго ж тут радавацца? Тут усё проста і банальна. Людзі трывалі, эканомілі, але не жадалі мяняць свае кроўныя па грабежніцкім афіцыйным курсе. Калі ж на мінулым тыдні афіцыйны і рынкавы курсы больш-менш зблізіліся, людзі панеслі валюту, каб памяняць яе на беларускія рублі і задаволіць самыя надзённыя патрэбы – купіць тое, што конча трэба купіць: харчы, вопратку, абутак (зіма на парозе), тыя ж лекі...

З таго, што людзі панеслі валюту ў абменныя пункты вынікае і іншае: іхніх заробкаў, пенсій, стыпендый, дапамог не хапае на задавальненне штодзённыях патрэбаў. Вось калі б беларусы дасталі з панчохаў свае запасы ды панеслі іх у банкі – была б падстава для аптымізму. А тут... Чаго ж тут радавацца?

*Анатоль Сідарэвіч*
*21 верасня 2011 г.*
*Менск*

# Канферэнцыя беларусаў краінаў Балтыі і Беларусі

**27-28 жніўня 2011 г.** у Вільні праходзіла пазачарговая Канферэнцыя беларусаў краінаў Балтыі і Беларусі, якую арганізавала і правяло Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Сярод гасьцей і дэлегатаў былі прадстаўнікі з Беларусі, Латвіі, Польшчы. У Вільню завіталі: з Польшчы Яўген Вапа, з Латвіі Вячка Целеш, з Беларусі Алена Макоўская, Алег Трусаў, Анатоль Астапенка, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Хільмановіч, Вячаслаў Сіўчык, Галіна Сіўчык, Вольга Мікалайчык, Леанід Лыч і інш. З літоўскага боку ў канферэнцыі прыняў удзел вядомы праваабаронца Стасіс Каўшыніс. Ад грамадзянскай кампаніі Еўрапейская Беларусь быў Андрэй Бабіцкі. На пасяджэньні прысутнічала знакамітая рэдактарка сайта charter97.org Наталля Радзіна, якая цяпер жыве ў Літве.

Мясцовых беларусаў прадстаўлялі: старшыня ТБК і арганізатар Канферэнцыі Хведар Нюнька і сябры Таварыства.

Удзельнікаў Канферэнцыі прывіталі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк, даслаўшы віншавальныя лісты. Галоўныя тэмы, якія прагучалі пад час выступаў, тычыліся адзначэньня 20-годдзя аднаўленьня незалежнасці Беларусі, катастрафічнага стану беларускай мовы ў сёняшняй Беларусі, пагрозы страты незалежнасці і поўнай русіфікацыі этнічнай Бацькаўшчыны, а таксама парушэння правоў і свабодаў грамадзянаў у Беларусі.

Калі з тым, што ў Беларусі адбываецца парушэнне правоў і свабодаў грамадзянаў пагаджаліся ўсе прысутныя, то наконт лёсу беларускай мовы і русіфікацыі Беларусі думкі падзяліліся на дзве ўмоўныя часткі. Да першай можна аднесці тых, каго сапраўды непакоіць лём беларускай мовы і Беларусі, да іншага – тых, якія не бачаць ніякіх пагрозаў для зьнікнення Беларусі і беларускай мовы, спакойна ставяцца да такой з'явы як рускамоўныя беларусы і рускамоўная Беларусь. І што непакоіць , то гэта той факт, што сярод дэмакратычнага грамадства Беларусі пашырана апошняя думка. І мова для іх не адыгравае важнай ролі: галоўнае, што ты змагаешся за Беларусь і лічыш сябе беларусам.

Хочацца толькі запытацца: "Чым будуць розніцца рускамоўныя беларусы ад рускіх?" Здаецца, нічым. Але перадусім іх асіміляцыя адбудзецца ўжо ў першым пакаленні, бо няма мовы, няма свядомасці, няма ведаў пра свой народ, няма і свайго беларускага ўсведамлення. Мы становімся носьбітамі чужой культуры і чужой ідэі. З рускай мовай мы пачынаем успрымаць свет, як рускія людзі. Прыказкі, прымаўкі, фразеалягізмы ў нас гучаць не беларускія, а рускія. Мы пачынаем цытаваць рускіх класікаў на рускай мове, а не беларускіх. І так паступова крок за крокам і губляецца беларуская індэнтычнасць. І гэтак паказала доўгая гісторыя чалавецтва, што народы спачатку страчвалі сваю мову, а пасля незалежнасць і індэнтычнасць (ірландцы, шатландцы і інш.).




**Адкрыцьцё Канфэрэнцыі. Прамаўляе Хведар Нюнька**

Небяспека сёння яшчэ ў тым, што пачынаюць адыходзіць самі носьбіты мовы – адбываецца выміранне вёскі. Горад ніколі не быў беларускім і ўвесь час беларускую нацыю трымала вёска, сёння ж яна адмірае. Гэта звычайны працэс урбанізацыі, які адбываецца паўсюдна. Але калі ў большасці народаў горад гаворыць на мове тытульнай нацыі, то ў беларусаў гэтага не адбылося – горад загаварыў на мове акупантаў. І тут мы назіраем працэс, калі не адбылася перадача мовы гораду, перарвалася традыцыя жывой беларускай мовы, а значыць, яна хутка з жывой мовы можа пераўтварыцца ў мёртвую.

Працу Канферэнцыі распачаў старшыня ТБК Хведар Нюнька, які ў сваім выступе акрамя вышэйадзначанай праблемы крануўся і праблемы ўзаемаадносінаў паміж літоўцамі, палякамі і беларусамі на Віленшчыне. Сёння так атрымалася, што тут сутыкнуліся інтарэсы літоўцаў і палякаў, як адны, так і другія хочуць Віленшчыну бачыць сваёй. Але ў сваіх спрэчках яны забыліся аб тым, што на Віленшчыне жылі і ёсць беларусы, якія тут маюць свае карані і гісторыю.

Затым слова меў старшыня Фонда дапамогі грамадзянскай абароны, вядомы ў Літве і Беларусі праваабаронца Стасіс Каўшыніс. У сваім выступленьні ён акцэнтаваў увагу на справе беларускага праваабаронцы Алеся Беляцкага, які зараз у Беларусі знаходзіцца ў вязніцы. Гэта адбылося па той прычыне, што пэўныя чыноўнікі з розных ведамстваў Літоўскай Рэспублікі перадалі зьвесткі аб банкаўскіх рахунках беларускіх праваабаронцаў. І ў нейкай меры гэта можна лічыць здрадай. Зараз Літва зразумела сваю памылку і будзе спрабаваць яе выправіць і надалей пастараецца дапамагаць беларускім дэмакратычным сілам.

Рэдактарка сайта charter97.org Натальля Радзіна выказала надзею, што яна доўга не затрымаецца ў Вільні, а ў хуткім часе вернецца ў дэмакратычную Беларусь, бо гэты рэжым доўга не пратрымаецца.

Беларусаў Беласточчыны і Польшчы на Канферэнцыі прадстаўляў Яўген Вапа, які ў сваёй прамове падзякаваў за арганізацыю такіх канферэнцый, якія даюць магчымасць беларусам з розных краінаў сабрацца разам і абмеркаваць свае праблемы. Далей прамоўца зазначыў, што ўсе гэтыя праблемы беларусаў будуць вырашацца толькі тады, калі Беларусь стане сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавай, бо тады, зразумела, яна будзе дапамагаць беларусам замежжа. А такі час надыдзе і ў гэта вераць беларусы Беласточчыны.

Сябра ТБК Андрэй Старавойтаў у сваёй прамове засяродзіўся вакол асобы Алеся Беляцкага і перадачы Літвой банкаўскіх рахункаў беларускім службам. Ён лічыць, што тут добра папрацавалі беларускія і расейскія спецслужбы і адбыўся пэўны недагляд з боку дзяржаўных органаў краінаў Еўразвяза.

Ад беларусаў Латвіі выступіў Вячка Целеш, адзін з найбольш актыўных грамадскіх беларускіх дзеячоў Латвіі, які прадстаўляў дзьве арганізацыі: саюз мастакоў беларусаў Балтыі "Маю гонар" і "Сьвітанак". Спадар Вячка акцэнтаваў увагу на тым, што старыя беларусы адыходзяць, сілаў становіцца ўсё менш і менш, а маладыя беларусы практычна не далучаюцца. І такім чынам беларускі рух у Латвіі пачынае затухаць. Чаму? Таму што з'явіўся другі сьвет: сьвет грошаў, сьвет выжывання. І таму моладзь імкнецца думаць пра грошы, пра бізнес, але не пра грамадзкую дзейнасць. Другой праблемай, якая непакоіць сп. Вячку ёсьць тое, што нягледзячы на тое, што ў Латвіі ёсьць беларуская школа, беларуская мова ў ёй гучыць рэдка. Самі традыцыі існавання беларускіх школаў у Латвіі вядуцца з 20 –х гадоў XX ст. Але сёньняшнія беларусы ўжо не тыя, якія былі тады, яны выхаваныя ў савецкай школе. Калі сп. Целеш заснаўваў беларускую школу ў Рызе, былі бацькі, якія скончылі беларускія школы, ведалі беларускую мову, асноўнай сваёй масай папрыязджалі з вёсак, то зараз пакаленне дзяцей, якія нарадзіліся ў Латвіі ў расейскамоўных сем'ях і многія з іх нават не чулі беларускага слова. Школа, па яго словах, тая ўстанова, якая дае сілы для выжывання нацыі.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, які з'яўляецца адным з асноўных абаронцаў функцыявання беларускай мовы ў розных інстытуцыях Рэспублікі Беларусь, выказаў занепакоенасьць станам беларускам мовы. Калі да гэтага часу асноўным трымальнікам мовы была вёска, то сёння гэта далёка не так, носьбіты (вяскоўцы) адыходзяць, моладзь, як і гарадская, імкнецца размаўляць па руску. Асноўным захавальнікам мовы цяпер з'яўляецца беларуская інтэлегенцыя і частка дэмакратычнай моладзі. І галоўны горад, дзе гэта адбываецца – Менск. Наша галоўная задача зараз – змагацца за тое, каб моладзь размаўляла па-беларуску, бо пройдзе яшчэ 10-15 гадоў і Беларусі не будзе ніякай, не таталітарнай, не дэмакратычнай. Гэта будзе расейская правінцыя. Далей сп. Трусаў заклікаў апазіцыю: "Не выступайце па-расеску, не рабіць рускамоўных сайтаў, не пішыце ўлёткі "Гавары праўду" па-руску. Рабіце ўсё па-беларуску! Адзінае, што нас трымае – гэта мова. Калі мы губляем мову – дзяржава зьнікае. А калі няма дзяржавы, то нічога няма." Напрыканцы сп. Алег пажадаў усім не губляць аптымізму і ў сваім жыцці 24 гадзіны ў суткі карыстацца беларускай мовай: "Бо калі дэмакрат гаворыць па-руску, я не веру, што гэта дэмакрат. Не веру".

Наступным прамаўляў сенюнас (пасада адпавядаючая войту –аўт.) Вяркяйскай сенюніі (прыкладна тое самае што гміна – аўт.), сябра рады ТБК Вацлаў Гульбіновіч. У двух словах ён распавёў аб сваёй працы і таксама выказаў занепакоенасьць станам беларускай мовы. Нават прыязджаючы ў сваю вёску, ён там чуе больш русізмаў, чым беларускіх словаў, чаго яшчэ гадоў трыццаць назад не было.

Вядомы беларускі апазіцыянер і грамадзкі дзеяч Вячаслаў Сіўчык, які зараз часова жыве ва Украіне, распавёў пра агульнае становішча там і аб дзейнасці беларускіх арганізацый у гэтай краіне.

Ад Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына" на Канферэнцыі пра-



**Прамаўляе Вячка Целеш**

маўляла кіраўнік арганізацыі сп-ня Алена Макоўская. На пачатку яна звярнуліся да гісторыі і нагадала прысутным, што першая канферэнцыя беларусаў краінаў Балтыі і Беларусі адбылася ў 1994 г. , тады яна называлася Першай Сустрэчаю беларусаў краінаў Балтыі. З таго часу прайшло 17 гадоў. Далей сп-ня Алена падзякавала сп. Хведару Нюньку, што нягледзячы на шматлікія цяжкасці (фінансавыя, матэрыяльныя, арганізацыйныя) Таварыства і надалей працягвае праводзіць гэту канферэнцыю. Сп-ня Макоўская зазначыла, што зараз вялікую занепакоенасьць выклікае тое, што да гэтага часу не прыняты закон аб беларусах замежжа і Беларусь засталася адзінай краінай на эўрапейскай прасторы, дзе яшчэ няма такога закона, які б рэгуляваў адносіны паміж дзяржавай і дыяспарай. Непакоіць і той момант, што гэты закон хочуць назваць не закон аб беларусах замежжа, а аб суайчынніках, што робіць беларусаў нараўні з іншымі нацыянальнымі мяньшынямі, якія жывуць ў Беларусі. Існуе і іншая праблема – гэта тое, што многа беларусаў выязджаюць у розныя краіны і там яны асімілюцца надзвычай хутка. Да прыкладу, колькасць беларусаў у Расіі за 10 гадоў скарацілася на паўмільёна чалавек. Але яны не памерлі, не пераехалі ў іншае месца, яны перасталі сябе ўсведамляць беларусамі. Такі працэс асіміляцыі беларусаў характэрны і для многіх іншых краінаў. Калі ў самой Беларусі не патрэбныя беларусы, то ў замежжы тым больш. І дзяржава нічога не робіць для таго, каб спыніць гэтыя асіміляцыйныя працэсы беларусаў у замежжы. А таму працу з беларусамі замежжа трэба пачынаць з самой Беларусі: трэба падвышаць прэстыж беларускай мовы і прэстыж самой Беларусі.

Сябра ТБК Артур Яўмен у сваёй прамове выказаў занепакоенасьць тым, што колькасць беларусаў зьмяншаецца. Па-сутнасці – беларусы ёсць і павінны быць, але яны не запісваюцца беларусамі і імі сябе не лічаць. З чым гэта звязана? Перадусім з тым, што няма падтрымкі з боку дзяржавы (метраполіі), таму што пры ўладзе тыя людзі, якія не разумеюць, куды яны ідуць і чаго яны хочуць. Тыя, хто разумее, што рабіць, проста не дапускаюцца да ўлады. Таксама адна з



**Выступ Генадзя Бураўкіна**



**У залі Канфэрэнцыі**

прычын, што няма каардынацыі паміж старым пакаленнем беларусаў і новым. Калі паглядзець, практычна няма моладзі. А чаму? Таму што старое пакаленне не разумее маладых і іх патрэбаў. Артур лічыць, што трэба цалкам мяняць стратэгію, бо зараз не царква і школа фарміруюць нацыю, а ўніверсітэты, інтэрнет. І таксама Артур лічыць, што не трэба адкідваць тых беларусаў, якія не размаўляюць на мове, бо яны рана ці позна дойдуць да яе, калі ўсвядомяць сябе беларусамі. Таму трэба змагацца за людзей, і калі да іх дойдзе, што яны беларусы, то рана ці позна авалодаюць беларускай мовай.

Сваімі думкамі, перажываньнямі, развагамі падзяліўся народны паэт Беларусі Генадзь Бураўкін. Пачынаючы сваю прамову, ён звярнуўся да 20-годдзя аднаўлення незалежнасці Беларусі, адной з самых важных датаў у найноўшай гісторыі краіны. Сп. Генадзь не пагадзіўся з думкай, якая распаўсюджана і ў Расеі і ў Беларусі: "На Беларусь незалежнасць звалілася нечакана, а падтэкст – не заслужана. Вось калі літоўцы за гэта пралілі кроў, праўда, на шчасце трэба сказаць што гэта кроў была не такая вялікая як магла быць. А беларусы што, ніякай крыві не прылілі, сваім лёсам не рызыкавалі? Вось ім 90-я гады, ці нават ГКЧ, падарылі гэтую дзяржаўную незалежнасць. Я і тады і цяпер, маючы ўжо доьсвед гадоў, лічу, што гэта не справядліва. Гэта сведчыць пра тое, як беларусы мала ведаюць, перш за ўсё пра сябе, сваю гісторыю, свой лёс. У нас што не было Каліноўскага? А там кроў была, кроў вялікая. Што, не было Слуцкага Збройнага Чыну? Быў! Страшны. (…) Што ў рэшце не было Другой сусветнай вайны??? (…) Што гэта не было нашым змаганьнем за нашу незалежнаьсць? Хаця б надзеяй на нейкую нашу дзяржаўнасьць? А тое, што адбылося 19 сьнежня мінулага года. Гэта эпізод усё ж з таго гістарычнага ланцуга. Гэта змаганьне за нашу Незалежнасьць! І гэта змаганьне ўсё яшчэ ідзе. (…) І я хачу скажаць, што мы ў гэтым змаганьні яшчэ не атрымалі перамогі… У нас наперадзе вялізная небяспека страціць беларускую дзяржаўную самастойнасць. Мы ж не ведаем, што падпісаў Лукашэнка ад імя нас, ад імя усіх грамадзян Беларусі, вымаліўшы ў Мядзьведзва і Пуціна падтрымку сабе на апошніх выбарах. Што яны гэта яму проста так далі (…) Божа мой! Ён жа нас прадаў. Можа мы ўжо жывем у краіне, дзе нашага ўжо нічога няма".

Журналіст беларускай перадачы на літоўскім радыё Галіна Лаўрыновіч у сваім выступе адзначыла, што яна не бачыць вялікай небясьпекі для існаваньня беларускай мовы, ніхто не перашкаджае людзям размаўляць па-беларуску, ёсць беларуская школа, ёсць беларуская катэдра, ёсць беларускія перадачы на літоўскім радыё, а значыць ёсць умовы для жыцьця беларускай мовы.

Цікавым і насычаным быў выступ гісторыка Леаніда Лыча. У сваёй прамове ён таксама шмат увагі надзяліў праблеме зьнікнення беларускай мовы і нацыянальнай дзяржаўнасьці. Беларусь - гэта аднанацыянальная дзяржава (пераважае беларускі этнас) і ў такой дзяржаве не можа быць двухмоўя. Двухмоўе ўвогуле ўводзіцца як пераходны этап для замацавання пэўнай, больш моцнай, мовы. І ў сёньняшніх умовах мы можам здагадацца якой. Гэта ў часе міжваеннай Беларусі, кіраўніцтва якой хацела паказаць якое яно было добрае, было ў нас чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, руская, польская і



**Удзельнікаў Канфэрэнцыі вітае прэзыдэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская**

габрэйская. Хаця жыцьцё паказала, што тады дзяржава была схільная праводзіць палітыку беларузізацыі (20 гг XX ст.), то нават рускія прасіліся ў беларускія школы, таму што перспектыва была за беларускай мовай. Калі ж гэтага няма, працэс адваротны. Затым сп. Лыч сказаў, што можа і не было б у яго столькі пессімізму, калі б не той факт, што пасьля травеньскага рэферундама 1995 года ніхто не выступіў у абарону беларускай мовы, нават самі выкладчыкі гэтай мовы. І не трэба тут было выходзіць на мітынгі, дастаткова было хаця б абмеркаваць гэту праблему паміж сабой. Але і гэтага не зрабілі. Гэта гаворыць аб тым, наколькі мы беларускамоўна анямелі. А калі народ анямее, то яго вельмі цяжка падняць. І сёння відаць не трэба плакаць, а думаць, як ратавацца. Яго непакоіць і той фактар, што ўсе нацыяўтваральныя фактары працуюць не на карысць беларускага этнаса: школа, царква, дзяржава. Калі б нашы чыноўнікі пачалі б гаварыць па беларуску, а іх каля мільёна, то колькі ўжо гучала б беларускай мовы. Але ўсё гэта можа адбыцца толькі па ініцыятыве нашага народа.

Уладзімір Хільмановіч з Гародні адзначыў, што не будзе беларускага адраджэньня, што не будзе беларускай мовы (і не трэба тут мець ілюзій) пакуль будзе сёньняшні беларускі рэжым. Сапраўднага беларускага адраджэньня, якое было на пачатку 90 гг XX ст., не будзе, пакуль не зьменіцца ўлада. А самае вялікае злачынства нашага кіраўніка - гэта тое, што ён падзяліў беларускае грамадзтва. І шкада, што вельмі шмат спачуваючых, але мала тых, якія нешта робяць. У мінулым годзе ў Гародні ў беларускую школу запісалася 2 вучні, сёлета 8, гэта вельмі сумна. Нават у Гародні не можам набраць дзяцей у беларускую школу. А адраджэнцаў у Гародні вельмі шмат. Праблема ў тым, што бацькі не бачаць перспектывы для сваіх дзяцей пасля сканчэньня імі беларускіх школ.

Анатоль Астапенка ў сваім выступленьні, як і большасць папярэдніх выступоўцаў, выказаў сваю занепакоенасьць станам беларускай мовы і праблемай па захаваньні беларускай нацыі і дзяржавы. На пачатку сваёй прамовы засяродзіў увагу прысутных на эканамічным крызісе, які зараз адбыўся ў Беларусі

Цягам Канферэнцыі выступіла шмат іншых вядомых і паважаных людзей, сярод якіх былі Галіна Сіўчык, Вольга Мікалайчык, Андрэй Бабіцкі, Алесь Трусаў і інш. Галоўная тэма ўсіх выступоўцаў – у той ці іншай меры занепакоенасьць лёсам беларускай мовы і існаваннем беларускай нацыі і беларускай дзяржавы.

На завяршэньне Канферэнцыі былі прынятыя звароты ў розныя інстытуцыі Еўразвязу, Літоўскай Рэспублікі, Рэспублікі Беларусь з якімі можна пазнаёміцца на нашым сайце westki.info/tbk:

*Алесь Адамковіч*
*Вільня*

# Ці будзе помнік Скарыну ў Вільні?

Віленскія беларусы накіравалі адмысловы ліст мэру Віленскага гарадскога самаўпраўлення Артурасу Зуокасу і беларускаму амбасадару ў Літве Уладзіміру Дражыну з прапановаю паставіць ў Вільні помнік Францішку Скарыну. У лісьце гаворыцца:

"Набліжаюцца 525-я ўгодкі з дня нараджэння беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, мысліцеля-гуманіста і асветніка, вучонага і пісьменніка эпохі Адраджэння Францішка Скарыны, імя і жыццядзейнасць якога маюць да нашага горада самае непасрэднае дачыненне.

Менавіта Францішак Скарына, пасля вяртання з Прагі, заснаваў у Вільні ў 1521-1522 гг., у доме бургаміcтра Якуба Бабіча, першую на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) друкарню.

Менавіта ён – Францішак Скарына – праславіў наш горад, а разам з ім і ўсё ВКЛ, першай надрукаванай ім тут у 1522 г. кнігай.

Менавіта ён даў жыццё першаму друкаванаму слову на нашай зямлі.

Выданні Францішка Скарыны з'яўляюцца ўнікальнымі помнікамі свецкага і біблейскага пісьменства. Яго кнігі не толькі не саступаюць еўрапейскаму ўзроўню тае пары, але ў многім і пераўзыходзяць яго.

Веліч і сіла духу Францішка Скарыны, яго жыццёвы подзвіг прызнаны ва ўсім свеце. Яго імем названы вуліцы і праспекты, навучальныя ўстановы і бібліятэкі, грамадскія арганізацыі.

Імя Францішка Скарыны прысвоена малой планеце № 3283. У Полацку, Мінску, Лідзе, Калінінградзе і Празе яму стаяць помнікі. Не складае выключэння і Вільня. У гонар Францішка Скарыны названа адна з вуліц горада.
На доме № 19 па вуліцы Вялікай (Didžioji) устаноўлена мемарыяльная дошка, якая нагадвае жыхарам і гасцям сталіцы пра надрукаваныя ім тут кнігі.

Імя Францішка Скарыны ўзяла сабе Віленская сярэдняя школа з беларускай мовай навучання.

Думаецца, аднак, што гэтага недастаткова. На наш погляд, такой выбітнай асобе эпохі станаўлення духоўнай культуры Новага часу ў Заходняй, Цэнтральнай, Паўночнай і Усходняй Еўропе, у тым ліку ў ВКЛ, як Францішак Скарына, у Вільні таксама мае стаяць помнік. Тым больш, што Вільня адзін з нямногіх гарадоў, з якім так цесна павязаны яго лёс і ў гісторыі якога ён пакінуў такі глыбокі след. Найбольш прыдатным месцам пад помнік Францішку Скарыне нам падаецца скверык у канцы вуліцы Зарэчнай (Užupio), на стыку з вуліцай Полацкай (Polocko) – былым Полацкім трактам, якім ён, магчыма, дабіраўся ў свой час з Полацка ў Вільню.

Думаем, што наяўнасць у Вільні такога помніка толькі дадало б ёй еўрапейскасці, з'явілася б яскравым пацвярджэннем гістарычнай справядлівасці і талерантнасці, якімі спрадвеку славіўся наш горад..."

*З павагай,*
*Віленскае беларускае таварыства палітычных вязняў і ссыльных і інш.*

---

## Рэцэнзія




### Галіна Руднік.
# Птушкі пералётныя.

**Рэдактар Алена Ціхановіч. Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода. 2011. 192 с. Ілюстрацыі.**

Галіна Руднік (дзявочае -- Ганчарэнка), якая жыве цяпер у Мюнхэне, прайшла даўгі жыцьцёвы шлях, на якім хапала ўсяго – і трагедыяў, і складаных прыгодаў, і забаўных выпадкаў, і энэргіі ды ўменьня перамагаць цяжкасьці, знаходзіць выхады са складаных сытуацыяў. Вялікую частку свайго жыцьця Галіна, асірацелая ў дзіцячым веку, пражыла зь цёткай, мамінай сятрою, сьпявачкай і артысткай Барбарай Вержбаловіч.

" 'Птушкі пералётныя', -- чытаем на задняй вокладцы, – кніга палёту беларускай дзяўчыны з Бабруйску супраць урагану гісторыі над сталінскімі расстрэламі, нямецкай акупацыяй, лягерамі для перамешчаных асобаў у Амэрыку і вяртаньня на заклік Рады БНР у Эўропу, каб працаваць на Радыё Свабода ад пачатку Беларускай службы да краху савецкай імпэрыі. Унікальны голас пераможцы".

Галіна Ганчарэнка-Руднік захавала ў памяці шмат гістарычна важных фактаў, а таксама цікавых дэталяў са свайго дынамічнага жыцьця. Пра ўсё гэта яна апавядае сьцісьлым стылем, бязь лішніх слоў, часта з пачуцьцём гумару. Кніга чытаецца лёгка, увага чытача заўсёды трымаецца на канкрэтных фактах, на дзеяньні, на здарэньнях, перасыпаная анэкдатычнымі выпадкамі. Багаты ў ёй ілюстрацыйны матэрыял (50 здымкаў) з асабістага архіву аўтаркі, які, разам зь сямейнай гісторыяй, адлюстроўвае таксама беларускае грамадзка-культурнае жыцьцё на бацькаўшчыне і ў замежжы. Публікацыя забясьпечаная паказьнікам асобаў, што дазваляе некаторым чытачам, сучасьнікам аўтаркі, даведацца сёе-тое пра супольных знаёмых.

Галіна Ганчарэнка разам зь цёткай былі, можна сказаць, у самым цэнтры беларускага жыцьця эміграцыйнага пэрыяду. Абедзьве яны, дзякуючы здольнасьцям, апынуліся ў цэнтры палітычна інфармацыйнага дзеяньня Злучаных Штатаў, накіраванага на савецкую імпэрыю праз радыё "Свабода" (РС). У гэтай радыёстанцыі, на працягу 42 гадоў, Галіна выконвала ў розным часе адказныя ролі ў беларускай, украінскай і расейскай рэдакцыях. Апрача ўсяго іншага, яна беззаганна магла чытаць перад мікрафонам тэксты беларускай, расейскай і ўкраінскай мовамі.

Калі ў 1967 годзе Сталінава дачка Сьвятлана Алілуева апынулася на Захадзе й дала згоду на трансьляцыю ейнае кнігі "Двадцать писем к другу" праз расейскую праграму РС, чытаньне кнігі , на жаданьне аўтаркі, даручылі Галіне Руднік. Другую кнігу Алілуевай таксама начытвала яна.

Пачаўшы працаваць у 1954 годзе ў Беларускай рэдакцыі, свае функцыі ў РС Галіна скончыла на становішчы намесьніцы шэфа аддзелу прадукцыі расейскіх перадачаў, адказнай за працу 40 штатных асобаў і 10 няштатных. Каб заняць такую пасаду, не абыйшлося без канфлікту, як пра гэта чытаем у кнізе:



**Галіна Руднік з сынамі Аляксандрам і Юркам**

"Невялікая група, усяго некалькі асобаў з рускага аддзелу прадукцыі, зьвярнулася да дырэктара РС з пратэстам: як можна браць у рускую рэдакцыю Галіну Ганчарэнку, калі яна, працуючы зь беларусамі й украінцамі, чытала ў эфір антырускія тэксты, дзе рускіх называлі няйначай як 'маскалямі'!
Што гэта быў за перапалох! Дырэктар склікаў экстранае пасяджэньне галоўных рэдактараў беларускай і ўкраінскай рэдакцыяў, дараднікаў, перакладчыкаў. Хаця ўсе яны запэўнівалі яго, што такога ніколі ня было й не магло быць, дырэктар прызначыў камісію, якая прагледзела ўсе тэксты гэтых дзьвюх рэдакцыяў за апошнія ня ведаю колькі гадоў. Аказалася, што ні беларуская, ні ўкраінская рэдакцыі ніякіх пагрэшнасьцяў у гэтым кірунку ня мелі."




Успаміны Галіны Ганчарэнкі-Руднік – красамоўнае сьведчаньне, праз прызму жыцьця аднае асобы, пра драматычную эпоху сталінскіх чыстак і расстрэлаў, нямецкае акупацыі, лягернага быту ў Нямеччыне, эміграцыйнага ў Амэрыцы, ідэялягічнага змаганьня Захаду з камуністычнай Масквой ды ролю ў гэтым змаганьні беларускай эміграцыі й Рады БНР.

Беларуская рэдакцыя РС, пачаўшы сваю дзейнасьць амаль 60 гадоў таму, працягвае яе сёньня ў тэхналягічна абноўленым часе. Працаўнікі рэдакцыі пашыраюць інфармацыю ў Беларусі ня толькі галасамі дыктараў, але й інтэрнэтаўскімі відэаматэрыяламі ды кніжнымі выданьнямі. Аляксандар Лукашук, сучасны дырэктар Беларускай службы РС, запачаткаваў і каардынуе кніжны праект "Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе". У гэтай фундамэнтальнай сэрыі кніга Галіны Руднік выйшла 26-й публікацыяй. Якая выдатная дзейнасьць! Даведацца больш пра яе можна на сайце: www.svaboda.org.

*Янка Запруднік*

# Саміт "Усходняе партнэрства"

**29-30 верасьня** ў Варшаве праходзіў Саміт краінаў цэнтральнай і ўсходняй Эўропы - удзельніц праграмы «Усходняе партнэрства» Эўразьвязу. Галоўнаю тэмаю варшаўскіх размоваў была перадача досьведу дэмакратычных пераменаў іншым краінам.

У саміце бралі ўдзел прэзыдэнты 20 эўрапейскіх краінаў, у тым ліку Літвы, Нямеччыны, Украіны, Чэхіі, Італіі ды іншых. Афіцыйны Менск адмовіўся ад удзелу ў саміце. МЗС Беларусі заявіў пра «дыскрымінацыйныя захады» арганізатараў на адрас Менску. Перш за ўсё — адмову накіраваць запрашэньне Аляксандру Лукашэнку.

Затое вялікую праграму перамоў і сустрэч у Варшаве мела дэлегацыя беларускай апазыцыі і сваякоў палітвязьняў.

У праграме саміту было ўключана і беларускае пытаньне. Удзельнікі саміту прынялі палітычную дэкларацыю сустрэчы, у якой, аднак, асуджэньне беларускіх уладаў за палітычных вязьняў ды рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасьці і СМІ было выключанае з асноўнага тэксту і далучанае да яе толькі як дадатак.

Дадатак суправаджаецца заўвагай, што ён быў зацьверджаны



толькі прадстаўнікамі краінаў-сяброў Эўразьвязу, а ня ўсімі ўдзельнікамі саміту, то бок не зацьверджаны краінамі-ўдзельнікамі "Усходняга партнэрства".

Тэкст дадатку да дэкларацыі адносна Беларусі гучыць так:

«Кіраўнікі дзяржаваў і ўрадаў і прадстаўнікі ЭЗ і яго дзяржавысябры выказваюць сваю глыбокую заклапочанасьць пагаршэньнем сытуацыі з правамі чалавека, дэмакратыяй і вяршэнствам закону ў Беларусі, асуджаюць няспыннае пагаршэньне стану свабоды прэсы ў Беларусі і патрабуюць неадкладна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зьняволеных, спыніць рэпрэсіі грамадзянскай супольнасьці і сродкаў масавай інфармацыі ды пачаць палітычны дыялёг з апазыцыяй.

ЭЗ таксама глыбока занепакоены паведамленьнямі аб тым, што зьняволеныя ня маюць кантакту зь сем'ямі і адвакатамі і доступу да мэдычнай дапамогі ды знаходзяцца пад псыхалягічным і фізычным ціскам. ЭЗ неаднаразова прапаноўваў паглыбіць свае адносіны зь Беларусьсю; пацьвярджаючы цяпер сваю палітыку ўзаемадзеяньня, ЭЗ зноў заяўляе, што такое паглыбленьне залежыць ад таго, ці беларускія улады пакажуць прагрэс у пашане дэмакратыі, вяршэнства закону і правоў чалавека».



**Ангела Мэркель гутарыць зь апазыцыйнай беларускай дэлегацыяй**

# Беларускі небасхіл Аляксандра Рыбака

Аляксандр Рыбак з Нарвэгіі - сьпявак беларускага паходжаньня, які здабыў сусьветную вядомасьць пасьля перамогі на конкурсе "Эўравізія-2009", запісаў для праекту "Будзьма! Тузін. Перазагрузка-2" беларускую вэрсію свайго гіту "Europe's Skies". У беларускай інтэрпрэтацыі Глеба Лабадзенкі песьня атрымала назву "Небасхіл Эўропы".

Пэрспэктыву запісаць песьню па-беларуску Аляксандар Рыбак адразу палічыў за прывабную. Сам дасканала беларускай мовы ён ня ведае. Для першых сваіх канцэртаў у Беларусі пасьля перамогі на конкурсе "Эўравізія-2009" Рыбак развучыў разам з маці «Купалінку». «Я заўсёды любіў сваю краіну, толькі што ня меў часу, каб вывучыць нашу прыгожую мову, бо выправіўся ў Нарвэгію яшчэ маленькім. Спадзяюся, што новае пакаленьне беларускіх дзяцей натхніцца маім сьпевам па-беларуску», - кажа сьпявак.

Беспасярэдні ўдзел у працы над беларускай вэрсіяй новай песьні ўзяла маці Аляесандра– Натальля Рыбак. Яна тлумачыла сыну не да канца яму зразумелыя словы, сачыла за вымаўленьнем падчас працы ў студыі. "Не забылася яшчэ на беларускую, хоць за ўвесь час, як мы



жылі ў Нарвэгіі, не давялося пагаварыць на нашай цудоўнай мове", – прызнаецца Натальля Рыбак.

Песьню "Небасхіл Эўропы" Аляксандар Рыбак мяркуе ўключыць і ў беларускае выданьне свайго другога студыйнага альбому, выхад якога запляваны на восень.

*19.09.2011*

# Аляксандар Рыбак – "Небасхіл Эўропы"

*(муз. А.Рыбак, сл. А.Рыбак, Томас Варнэс , беларускі тэкст – Глеб Лабадзенка)*

Супакой мяне на небе душы,
У сэрцы любоў ты запішы.
Вывучаю я цябе да драбніц,
Мару з табой разам сасьніць

Горы, рэкі, гаі, лугі,
Тут мой дом, тут берагі.

Небасхіл Эўропы, зноў малады,
З высі глядзіць на гарады.
Да душы тваёй таемнай сьвятло
Шляхам начным зноў прывяло.

Прамінаюць карагодам зямлі
Нашых вачэй два караблі.
Дакраніся да паветраных крыл,
Мы паплывем за небасхіл.

Сонца, зоры, лясы, сусьвет –
Мы глядзім з вышыні плянэт.

Небасхіл Эўропы, зноў малады,
З высі глядзіць на гарады.
Да душы тваёй таемнай сьвятло
Шляхам начным зноў прывяло.

# Belarus Art

*У гэтым выпуску мы прадстаўляем нізку патрыятычных вершаў Пётры Мурзёнка з Канады.*

## ЧАЦЬВЯРЦІНЫ

*Амаль тры з паловай мільёны беларусаў,*
*альбо кожны чацьвёрты,*
*жыве за мяжой*
*(“Беларускае замежжа: Гісторыя”)*

Раскіданых тры з паловаю мільёны па свеце
Няцяжка знайсці нас на кожным зямным кантыненце
Ад'ехаўшых з роднае хаты ў пошуках долі
Ці змушаных гэта зрабіць не на собскую волю
Мы погляды сёньня зьвяртаем на нашу Айчыну
Няважна калі й як надоўга яе хто пакінуў
Чакаем і верым, што Ты – маладая дзяўчына
Аднойчы у сьвет выйдзеш статнай, прыгожай жанчынай.

Хоць сёньня плывеш Ты няпэўна ня ў тым накірунку
І людцы жывуць у няпростых і цяжкіх варунках
Ня думаеш мовай, ня маеш і еднасьці ў думах
І мноства цудоўных людзей у драконаўскіх турмах
Мы к сёстрам сваім і братам далучыцца гатовы
Зьмяніць каб жыцьцё на людское навек, адмыслова
Каб дыхалі ўсе чацьвярціны дыханьнем адзіным
Бо ж нас аб'ядноўвае памяць, любоў да Радзімы.

## НАСТАЛЬГІЯ

Хто любіў сэрцам шчыра свой куточак Радзімы
У разлуцы пасля чуе боль несьцярпімы –
Невядома ці прыйдзецца ўбачыць абшары
І хаціну, дзе рос, любаваўся і марыў.

А любімых мясьцін не злічыць ў родным краі,
Ад дзіцячых гадоў тыя вобразы маем,
Як жывыя штодня прадстаюць прад вачамі,
Будзяць сэрца і думкі і днём, і начамі.

Выручаюць цяпер інтэрнет і газеты,
Каб як-небудзь часова суцішыць боль гэты –
Уяўляць збажыну, што красуе на полі,
Як на нашай зямлі салаў'ям жыць прывольна,

Адчуваць разам з ёй перамогі і страты,
Цяжка як здабываць хлеб духмяны аратым,
Як растуць, аб чым мараць і кім стануць дзеці,
І якое наш край зойме месца у сьвеце...

Ўсёж такім жа здаецца для нас смутак гэты,
Што й для выгнаных з краю вайною паэтаў,
Што прымушаны з'ехаць былі так далёка,
Добрых вестак ня мелі зусім з сінявокай.

Колькі сэрцайка вытрываць можа тых боляў?
І ці ёсць яны мерай да краю любові?
Калі ў сэрцы любоў жыве да Айчыны –
Параўнаньні такія зрабіць ці ж магчыма?!

## НАДПІСЫ

*У Менску толькі два працэнты*
*школьнікаў навучаюцца па-беларуску*
*(Таварыства Беларускай Школы,*
*Радыё “Свабода”, 1 верасня 2011)*

Мурзёнак, Райчонак, Лапцёнак
Спрадвеку нас звалі з пялёнак,
Але “родны” ўсходні браток,
Змяніў нам канчаткі на “ок”.

“Мурзёнок, Райчёнок, Лаптёнок”
Гучыць ў панадворку “с пелёнок”
Й далей, і далей па жыцьці,
І з тым на магілкі ісьці.

Усюды расейскія знакі,
Дзе сьпяць землякі-небаракі,
Ды часам лацініца ёсьць,
Свой сьпіць тут – ніякі ня госьць!

Бо маем у роднай пустыні –
Без мовы “пустыя Хатыні”,
Ў сталіцы дзяржавы, на жаль,
Ня ведаюць слова “кажан”.

Зато ёсьць ура-патрыёты,
Што бавяць “с ранья” анекдоты:
Бы шапкі у беларусоў
Пашытыя з “хатніх трусоў”,

Ня дзіўна, што тыя ўмовы,
Што ўтвораны для нашай мовы,
Здзівілі бы продкаў ў наш час –
Два з сотні ідзе ў родны клас.

Тутэйшы ня ёсьць абібока –
Ды каб весьці дзіця на ўрокі
Патрэбен які землятрус,
Каб ўспомніў, што ён беларус ...

На помніках выб’юць нашчадкі
Калісь словы праўды для таткі,
І ў новую мовяць пару –
“Тут братка наш сьпіць, беларус.”

* * *

Як вечна над зямлёй ўзыходзіць сонца –
Жыць будзе наша Беларусь бясконца!

***

## СЛУХАЮЧЫ АГІНСКАГА

*Ўладзе і Юрасю Шамецькам*

Спляліся ў эфіры мелодыя й слова,
Да неба ўзлятаюць узгодненым сьпевам.
Пад рытмы Агінскага родная мова
Кранае душу бы Прачыстая Дзева.

Застукалі сэрцы пад рытм адпаведна
І нават пабеглі “мурашкі” па скуры,
Заплакалі нават, хто добра ня зьведаў
Дагэтуль ў жыцьці старажытнай культуры.

На хвалях Агінскага словы паэта
Увысь узьляталі да Госпада Бога,
І сілаю думак сяброў нібы ветрам
Панесла дамоў іх знаёмай дарогай.

У роднай старонцы раскажуць Адзінай –
Мы помнім, мы разам, Цябе абдымаем,
Вяртаньне да Бога, да мілай Радзімы –
Найлепшае шчасьце з таго, што мы маем.

## ЧЫМ ЖЫВЕШ ЖЫВАТВОРНАЯ ВЁСКА?

Шчэ жывеш на зьдзіўленьне ўсім вёска,
Ўзгадаваўшы аж сто пакаленьняў!
Колькі бачыла розных ты вёснаў?
Колькі страт, а пасля адраджэньняў?

Пеставала ты матчыну мову,
Гадавала спакон дух народны,
Мела сілу каб скінуць аковы,
Быў ўжо час – наш народ чуўся годным.

А цяпер ўжо не маеш той сілы –
Горад, войны, “саветы” забралі:
Што ад мовы заставілі мілай?!
Ўзамен веры нічога не далі.

Дабівае цябе сёньня горад;
Хто шчэ помніць адзінага Бога?
Прыляцеў ў родны край чорны воран,
Дух дракона ў галовах у многіх.

Мову родную здалі задарма,
Засьмяцілі азійскім акцэнтам.
Хто наслаў на іх гэтую кару? –
Дух згубілі без мовы дашчэнту.

Гэх, была б на то Боская воля
Ў вёсцы ўзьняць жыватворную сілу
Ды здабыць для ўсіх вартую долю,
Каб у сэрцы зноў чуўся край мілым.

# Belarus Art

### ВЫКЛЮЧНАСЦЬ

За вокнамі ва ўсю грыміць глабалізацыя,
А Ты дасюль не скончыла важкой дарогі,
Ў канцы якой бы выйшла моцнай нацыяй
І ўстала паміж роўных з гонарам на ногі.

У роўных сьвет патрапіць могуць толькі моцныя –
І сілаю, і духам, і старажытнай мовай,
А ты выконваеш дракона ўказы злосныя –
Хто ў турмах, іншыя ж да сьвету не гатовы.

Сьпяшацца трэба, каб пазнаць сябе як нацыю,
Бо можаш апынуцца у абдымках сьвету,
І не часьцінкаю яго, а дэкарацыяй –
Сьпяваць пра Беларусь застанецца паэтам.

### ВЕРАСЬНЁЎСКАЕ ЦЯПЛО

Верасьнёўскае сонца не выходзіць ужо так высока
Над прыгожай краінай, што нас прыняла на жыцьцё,
Ды ўсё ж ласкава грэе, як і ў роднай старонцы далёкай,
Пад нагамі апоўдні аб мінулым мне шэпча лісьцё.

Там на родных загонах цяперака заняты бульбай,
Ўсёж яна працавітым гарантыяй ёсьць на жыцьцё.
Шмат далучаць яшчэ, каб у хаце было заўжды ўтульна,
Набылі праз вякі звычку выжыць, яна перш за ўсё.

Адарвацца ад спраў – не хапае на гэта хвілінаў,
Хоць наўкол харАство – лес у золаце ўвесь зіхаціць
Гэх, маглі б параўнаць з прыгажосьцю далёкіх краінаў
Ды павінны ўвесь час клапаціцца ля мілых хацін.

Колькі верасьняў пройдзе, пра гэта ніхто не расказа,
Калі зьменіцца час, дасьць на роздум свабодных гадзін,
Сябра мой у Канаду на госьці прыедзе паважна,
У верасьнёўскім цяпле пра жыцьцё мы пагутарым з ім.

## Галоўная ўзнагарода Эдзінбургскага фестывалю – Беларускаму “Вольнаму тэатру”

Беларускі вольны тэатр стаў уладальнікам галоўнай узнагароды Эдзінбургскага тэатральнага фестывалю Fringe-2011 за спектакль «Пісьмо для Кэці Акер. Менск'11». Уручэньне прызоў адбылося 26 жніўня 2011 ў Эдзінбургу.

Адзін з кіраўнікоў «Вольнага театра» Мікалай Халезін з гэтай нагоды паведаміў, што тэатр раней ніколі не меў намеру ўдзельнічаць у такім прэстыжным фестывалі:
“Для ўдзелу ў Эдзінбургскім фестывалі трэба самастойна аплаціць свой удзел: транспарт, пражываньне, арэнду пляцоўкі і г.д. Мы ніколі не былі тэатрам на датацыях і таму быў бы дзіўным наш удзел у такіх фінансаваёмкіх праектах.

2011 год зьмяніў нас, зьмяніў тэатр, зьмяніў маршрут нашага руху. Мы апынуліся ў самай гушчы сусьветнага тэатральнага працэсу, выжылі на самым крутым пераломе за ўвесь час існаваньня тэатра. Цяпер стаў магчымым і Эдзінбургскі фестываль. І не таму, што ў нас зьявіліся грошы. Проста мы зайшлі ў цывілізаваны тэатральны рынак, дзе існуюць інстытуты, зацікаўленныя ў іннавацыйных калектывах. Адной з такіх структураў стала тэатральная кампанія Fuel, якая прапанавала нам падрыхтаваць спектакль і прадставіць яго на Эдзінбургскім фестывалі. Уладзімір Шчэрбань, які даўно выношваў ідэю адказу Кэці Акер, а дакладней, яе “Нью-Ёрку' 79”, узяўся за гэтую працу і зрабіў гэта за самы кароткі час”.

Перад пачаткам фестывалю газэта The Guardian уключыла паказы беларускага «Вольнага театра» у сьпіс «10 театраў, якія трэба паглядзець на Эдзінбургскім фестывалі». Гэта быў аванс, але беларусы яго апраўдалі.




18 верасьня ад цяжкой хваробы памёрла Галіна Сямдзянава, дэпутат Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, адна зь лідэраў беларускай дэмакратычнай незалежніцкай апазыцыі.



## У апошні шлях Галіны Сямдзянавай

Яшчэ аднаго дэпутата Незалежнасьці страціла Рэспубліка Беларусь. Вельмі цяжка перажываць сьмерць паплечнікаў і равесьнікаў. Няма ўжо Ігара Гермянчука, Ігара Пырха, Яўгена Цумарава, цяпер вось -- Галіны Сямдзянавай.

Гэта праклятым Чарнобыль зьбірае сьмяртэльнае жніва. Калі ўсе мы, фронтаўцы і дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, змагаліся за праўду пра Чарнобыль і за ўратаваньне беларусаў ад радыяцыі, мы супрацоўнічалі з навукоўцамі, разьбіраліся ў працэсах і ў біяфізіцы нашай бяды. Тады казалі пра будучыя вынікі нішчэньня кожнага ізатопу, пра атаку плутонія праз 20 гадоў. І вось ужо паганскі дэман цемры выстрэльвае ў нашае сэрца... – Скалабан, Сіліцкі, Сямдзянава... Стрэл імгненны і хуткая сьмерць.

Шкада, што Галіна пайшла без пары, не дажыла да сьвітаньня, калі канае цемра і над Беларусяй засьвеціцца новы дзень. Гэты дзень ужо йдзе. Ён стукае ў нашыя дзьверы.

Апошні раз я бачыўся з Сямдзянавай у восені 2009 года, калі мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, сабраліся ў Вільні, усьведамляючы як нішчыць нашую справу жыцьця акупацыйны рэжым. Мы гаварылі пра абарону Незалежнасьці, гісторыі і культуры, ды пра нашае братэрства, якое мусіць быць над падзеламі.

Галіна Сямдзянава была асобай сумленнай і прынцыповай з цьвёрдым характарам і праніклівым розумам. Мы ведалі, што ў тактычных кантактах з нашымі палітычнымі праціўнікамі яе не спалохаюць, ня скруцяць, не ўгавораць і не ашукаюць.

Сямдзянава была з сям'і ваенных, член КПСС, украінка. Пошукі праўды, прыстойнасьці і справядлівасьці прывялі яе ў дэпутацкую Апазыцыю БНФ. Яна пакінула кампартыю, успрыняла ідэалёгію і пазыцыю Фронта, стала гаварыць па-беларуску, намэнклятура асьцерагалася яе як беларускай нацыяналісткі. Тады быў пераломны час, калі людзі выбіралі шлях. Галіна Сямдзянава выбрала наш шлях – шлях змаганьня за праўду, за справядлівасьць, за дэмакратыю і волю, за незалежнасьць Беларусі, шлях пакутны, шлях цяжкі, шлях вечны...

Дзякуй, Галіна Георгіеўна. Дзякуй.

Вечная памяць.

*19 верасьня 2011 г.*
*Зянон Пазьняк*

# Каляндар памятных датаў на кастрычнік 2011 году

**4 кастрычніка** – 35 гадоў таму, у 1976 годзе, памёр Юльян Сергіевіч, паэт, мастак.

**4 кастрычніка** – 30 гадоў таму памёр Чэслаў Сіповіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі

**6 кастрычніка** – 135 гадоў таму, у 1876 годзе, нарадзіўся Ян Булгак, фотамастак, этнограф, краязнавец.

**8 кастрычніка** – 110 гадоў таму, у 1901 годзе, нарадзілася Апалёнія Савёнак, настаўніца, пісьменніца, дзеячка эміграцыі ў ЗША.

**8 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, памерла Зоська Верас, пісьменьніца, грамадзка-культурны дзеячка.

**9 кастрычніка** – 95 гадоў таму, у 1916 годзе, нарадзіўся Віталь Кажан, грамадзкі і вайсковы дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**10 кастрычніка** – 130 гадоў таму, у 1881 годзе, нарадзіўся Ян Тарчэўскі, грамадзкі дзеяч, нашанівец, настаўнік.

**12 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, у Менску адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага Згуртаваньня вайскоўцаў.

**13 кастрычніка** – 205 гадоў таму, у1806 годзе, нарадзілася Эмілія Плятэр, фальклярыстка, удзельніца паўстаньня 1830 – 31 г.г.

**13 кастрычніка** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся Мікола Шчакаціхін, мастацтвазнавец, педагог.

**16 кастрычніка** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, памерла Марыя Багдановіч, маці Максіма Багдановіча.

**16 кастрычніка** – 5 гадоў таму, у 2006 годзе, памёр Яўген Лугін, грамадзка-палітычны дзеяч, стваральнік Сялянскай партыі.

**17 кастрычніка** – 35 гадоў таму, у 1976 годзе, памёр Радаслаў Астроўскі, грамадзка-палітычны дзеяч, педагог, Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады.

**18 кастрычніка** – 415 гадоў таму, у 1596 годзе, была падпісана Берасьцейская царкоўная унія.

**18 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, памёр Пётра Бітэль, пісьменьнік, паэт, педагог, праваслаўны сьвятар.

**18 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, Вярхоўны Савет прыняў закон “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь”.

**20 кастрычніка** – 100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзіўся Валянцін Рамановіч, мастак

**21 кастрычніка** – 135 гадоў таму, у 1876 годзе, нарадзіўся Сяргей Скандракоў, вучоны, краязнавец, публіцыст.

**23 кастрычніка** – 70 гадоў таму, у 1941 годзе, у савецкім канцлягеры быў забіты Васіль Шашалевіч, драматург.

**25 кастрычніка** – 65 гадоў таму, у 1946 годзе, у Парыжы была заснавана Беларуская грэкакаталіцкая місія начале з а. Львом Гарошкам.

**25 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, памёр Міхась Міцкевіч, пісьменьнік, грамадзкідзеяч, брат Якуба Коласа.

**29 кастрычніка** – 15 гадоў таму, у 1996 годзе, у Празе на Градчанах устаноўлены помнік Францішку Скарыну і мемарыяльная дошка на будынку Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі.

**30 кастрычніка** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, заснаваны Беларускі дзяржаўны універсытэт.

**30 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1936 годзе, памёр Фердынанд Рушчыц, польскі і беларускі мастак, педагог.

Бруклінскі аддзел БАЗА выказвае спачуваньне актыўным удзельнікам беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку Ларысе і Віталю Пузачам з нагоды сьмерці мужа і бацькі Сьцяпана Пузача. Адышоў у іншы свет шчыры беларус, добры бацька і муж.
Разам з вамі мы сумуем і перажываем гэтую цяжкую страту. Вечная памяць!

Парафіяльная Рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага выказвае спачуваньне Ларысе і Віталю Пузачам з нагоды страты блізкага чалавека – мужа і бацькі Сьцяпана Пузача. Не стала адданага беларускага патрыёта, чыё жыцьцё абарвалася заўчасна на чужыне. Няхай будзе лёгкай яму амэрыканская зямля на беларускім могільніку ў Нью Брансвіку!

## Запрашэньне

**Дарагія сябры!**

Запрашаем вас на **Беларускі фестываль**, што ўжо шмат гадоў традыцыйна праводзіцца пад час папулярнага фэсту "Атлантык Антык".
Тут вас будуць чакаць шмат сяброў, стравы беларускай кухні, музыка, мастацкая выстава, цікавыя відэафільмы. А прагульваючыся ў гэты час па Атлантык
авеню вы пабачыце ўсё багацьце культур Нью- Ёрку, пакаштуеце ежу розных
народаў сьвету, зможаце набыць упадабалыя тавары ад мноства гандляроў. Пачуеце розных музыкаў і артыстаў, пабачыце парады аркестраў.
Гэта будзе запамінальнае сьвята!
Дата і час:
**2 кастрычніка 2011 г.**,
пачынаючы ад 10:00 раніцы
Адрэса:
401 ATLANTIC AVE
BROOKLYN NY 11217-1702

*ЦАРКОЎНАЯ РАДА САБОРУ Сьв. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА БАПЦ*

## На выданьне “Беларуса” ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Л. Бакуновіч | $ 20 |
| А. Касяк | $ 50 |
| А.Маліноўскі | $ 60 |
| Л.Цярпінская | $ 50 |
| М.Шчэрба | $ 50 |
| С. Сарагавец | $ 50 |

**Выказваем шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass’n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :**
***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на адрас : T.Krasovskaya
PO BOX 1958, New York, NY, 10025

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*